# АКСАМІТНЫ ЖАХ

INTERNATIONAL EDITION

м. Гомель 1999 рок, кастрычнік месяц. № 8


**Некалькі разоў браўся за напісаньне аксамітнага матар'ялу і ўсё не ставала сілы хоць бы першае слова накрэмзаць: то бракуе натхненьня , то не хапае часу, то рашучасьць зьнікае разам з упэўненасьцю ў заўтрашнім дні, а аднаго разу сядзеўшы з думаю так і паснуў за чыстым аркушам, добра што жонка перапыніла маю дрэмоту, ды мовіла** (чалавечым голасам - Рэд.)**: "Ідзі ўжо спаць, гора маё". Але нараніцу, едучы на работу, амаль носам упёршыся ў ледзяное шкло тралейбуса я ўжо ведаў з чаго ўсё будзе пачынацца і пастулят: "пішацца пра тое, што бачыцца" зноў спрацаваў і нездарма, бо ён ёсьць прынцыпам местачковае літаратуркі. Менавіта таму цытую аднаго майго знаёмага афэрысту:**

**"Бачу – цмок заляцеў у ставок**
**Ажно крыльле свае раскарячыў**
**Бачу – я гэта бачу!**
**І дзе небудзьзь усё гэта адзначу..."**

**Сапраўды, чаму б не бавіць час пісаньнем гэткіх арыстакратычных опусаў, пагатоў што канцэлярскі мінімум заўсёды пад рукой? А тэмаў, далібог, дастаткова, каб раскрыць усе свае здольнасьці. Чаго-чаго, а гэтага на нашых местачковых паралелях не бракуе, галоўнае каб ставала натхненьня ды ўпартасьці. Хапае ж упартасьці калектыву рэдакцыі сьледаваць цмачынае тэматыцы нягледзячы на непрыяцце афіцыйных дасьледчыкаў і сапселых літаратурных монстраў, якія, чытаючы нашыя аксамітныя старонкі адно паблажліва усьміхаюцца, а за вочы кажуць такія брыдкасьці, на якія здольныя толькі інтэлегенты выпеставаныя ў БССР. Але ёсцейка яшчэ людзі, што грамыхаючы касьцьмі зьбіраюцца ў вандроўкі спадзеючыся засьпець хоць канчар цмачынага хваста. Таму на франтальным мейсцы ў нас унікальны фотаздымак зьняты напачатку вясны ў сакавіку 1973 року, якраз тады, калі Led Zeppelin выдалі свой шэдэўральны альбом "Hauses Of The Holy", а да яго матар'ял па сьлядох далёкіх тых падзеяў.**

# У небе над Чарацянкай



Дзела была так: ляцеў самалет у Чарацянку, бо толькі самалёты і маглі туды прабіцца: замець сьнежная засьціла дарогу, намяла высозныя гурбы, ані чалавек не пройдзе, ані конь, ані машына. Адзін самалёт, што сядае на ірты вёз у краму хлеб, газу, карамелькі і таннае віно, ды апроч тавару на скрынях і хрусткіх пакунках сядзелі нешматлікія пасажыры: прадаўшчыца з сельмагу, трактарыста, што вяртаўся з больніцы пасьля белае гарачкі і карэспандэнт абласное "Праўды", што меўся напісаць рэпартаж аб небывалым сьнегападзе і аб той вытрымцы з якой сяляне сустрэлі бажавольства прыроды.

Гулі-раўлі самалётавы ганіцелі, так што хіліла ў сон, у ілюмінатарах плыло густое малако воблачнасьці, гарэла кволая дзяжурная лямпачка непрыемнага колеру і нездарма людзі ў грузавым адсеку драмалі. Адзін карэспандэнт мясцовае газэты згодна сваёй прафэсіональнае дапытлівасьці шныраў па салоне, кранаў усе выступаючыя дэталі, нават пафарбаваныя чырвоным, і, ў рэшце рэшт дабраўся да летчыцкай кабіны, дзе дурыў галаву штурману выпытваючы што такое "фарсаж". Між тым заўважана зьнізіўшыся аэраплан прабіў воблачнасьць і павіснуў над зямною цьвердзью паўдзённаўсходняе часткі гомельшчыны, відавочна маючы намер зайсьці на пасадку. Пад крылом расьцілалася засьнежаная роўнядзь, напалам перамяшаная з мякінай брудна зялёных лясоў і пералескаў дзе-нідзе ажыўленая дробным россыпам вёсак – нудны тужлівы прасьцяг. У ніжні ілюмінатар было добра відаць аваражную карціну ўсей зямное мізэрнасьці і карэспандэнт утаропіўся ў шкло звыкла цокаючы языком, ды нездарма: гэтак цікуючы ў рэдкалесьсі ён угледзеў лася, і радасны, бачыўшы ласёў адно ў экспазыцыі Гомельскага краязнаўчага музэю, выхапіў фота, навёў аб'ектыў, ды пачаў шалёна шчоўкаць замыкам, у гэткі момант нагадваючы ледзь не паскуднага, падлючага, заходняга ладу "папарацы". Невялікая вышыня і ня дужая хуткасьць палету дазвалялі канкрэтна засяродзіцца на лясным волаце і зрабіць сэрыю някепскіх здымкаў, але што за дзіва, лось знэрваваны строкатам аэраплану тузануўся раз-другі, расправіў крылы і ўзмахнуўшы імі лёгка ўзьняўся ў паветра круцячы хвастом нібы прапелерам. Дык, ці лось гэта быў скажыце вы мне? Карэспандэнт, прозьвішча якога па містычнаму супадзеньню было ці то Лосеў, ці то Баранаў, падумаў, што нешта тут не тое, але было ўжо позна. Цмок, а гэта бяз сумнёву быў менавіта ён, паволі накіроўваўся да аэраплану і выгляд меў папросту шакіруючы. Трэба было нешта рабіць. І карэспандэнт узьняў трывогу. Штурман, зірнуўшы ў ілюмінатар, тут жа прыгадаў сваю расейскую "матерь", а пілот пералякаўшыся рэзка рульнуў набок, так, што калматая міфічная істота пранеслася ў метрах ста пяцідзесяці ад шэрага фюзэляжу. Відаць, намеры цмака мелі выключна варожы характар, бо пачаўшы з карэктных атакаў, цяпер ён адчайна спрабаваў зачапіць плоскасьць і пашкодзіць руль вышыні, а калі ён пыхнуў полымем, усё гэта пачало нагадваць паветраны бой часоў дру-

працяг чытайце на наступнай старонцы

працяг, пачатак чытайце на першае старонцы


гой сусьветнай вайны, прычым цмок безумоўна выступаў у ролі "Люфтвафэ". Экіпажу аставалася спадзявацца толькі на сваё майстэрства й вытрымку, што не раз праявілі савецкія лётчыкі ў бойках з арыстакратычнымі арыйскімі вылюдкамі і паверце, было зроблена ўсе, каб выйграць гэты двубой. Пілот стараўся зайсьці на пасадачны курс, але вось ужо трэйці раз густая касма полымя падкідвала самалёт, куляла яго ў паветры, зьніштажаючы ўсе спробы экіпажа вывесьці машыну на належную траекторыю. Здавалася, яшчэ шэраг агнямяных выпадаў і самалёт, ахоплены полымем, з жудасным віскатам выбухне дзесь за бліжэйшым лесам, але пілот рабіў немагчымае зноў і зноў, вернучы гэткія віражы, што пазайздросьцілі і Пакрышкін з Кажадубам, гледзячы на штукарства сельскай авіяцыі. Былы вайсковы лётчык, пакінуўшы службу ў паветраных сілах з празьмернае любошчы да сьпіртнога да дробязей прыгадаў свае вучнёўскія палёты і ўжо выканаў мёртвую пятлю, бочку, штопар, і яшчэ адну імправізацыйную пілатажную фігуру, выдатна ведаючы, што гэта адзіная мажлівасьць астацца жывым, калі адсутнічае ўзбраеньне. Між тым, пазбавіцца цмачынага перасьледу было ня так проста – цмок паказаў сабе ў паветры рухавым, вяртлявым незакамплексаваным арганізмам, дзейнічаў надзіва ўмела і складна, не творачы лішняга, не блытаючыся, не адстаючы. Але, як лічыць беліцкае кола дасьледчыкаў, больш дзесяці хвілінаў актыўнай дзейнасьці ў паветры зьніштажаюць цмачыныя сілы, нездарма й чарацянскае здарэньне працягвалася прыкладна такі ж час, хоць, здавалася мінулі гадзіны. Стварэньне пасьля чарговае безвынікавае спробы пашкодзіць хвастовае апярэньне апынулася на тры корпусы ззаду і дасягнуць аддаляючагася аэраплану ўжо ня здолела, праўда паслаўшы наўздагон з'едлівы слуп рудога дыму – усё, што асталося ад зыркага полымя, ды густы россып іскраў як ад бенгальскіх агнёў.

Цмок бы праваліўся: камянем упаў долу і ля самае зямлі рэзка й мякка зпланаваў у нейкі гушчар зарыўшыся ў глыбезны сьнег. Але й самалёт, круціўшы высакародныя вэнзэля ў паветры астаўся без паліва і згубіўшы сувязь з зямлёю зьніжаўся, чапляючы фюзэляжам верхаліны маладых хвоек у нейкай невядомае мясцовасьці. Самалёт біла як ў ліхаманцы, ўсё дрыжэла і вібрыравала, тоўстае шкло пілоцкай кабіны заляпіў сьнег, вецьце, гольле... Машына, зрэзаўшы паласу рэдкалесься, вылецела ў чыстае поле і тыркнуўшыся ва ўзгорак задрала хвост з чырвонаю зоркаю і нумарам "15" зусім недалёка ад гаёчка з могілкамі. Тые, хто мог, аблегчана ўздыхнулі...

Гадзіны праз чатыры адурэлых пераляканых аклякнуўшых людзей знайшлі вайскоўцы зябраўскай авіяцыйнае базы, ўзьнятыя на пошукі зьніклага борта. Яны ня здолелі выбрацца з глыбокага сьнегу знаходзячыся ў паўшокавым стане з набітымі гузакамі і гематомамі. Астаецца здагадвацца, што перажылі цывільныя людзі ўпершыню апынуўшыся ў самалёце, калі сам пілот, што правёў чвэрць жыцьця ў паветры хвілін сорак не мог адарваць рук ад штурвала. Рызыкнем уявіць, што адбывалася ў грузавым адсеку, дзе ніхто гэтак і ня ўцяміў прычыну аварыйнасьці-катастрофы: пабітыя вінныя пляшкі, рассыпаныя макароны і хлебныя кулідкі, ўстойлівы млосны пах газы і ружовы цурок, які ліўся з адкрытае бартавое дзверы, кампотны струмень пранізьліва пахкі з незабыўным "партвейнскім" акцэнтам. Да таго часу, як з'явіліся першыя выратоўцы з медычнай дапамогаю, трактарыста, відаць ад нэрвовага перанапружаньня гэтак насёрбаўся дармавога вінішча, ацалелыя пляшкі якога сустракаліся сярод шкляного лому, што роў як марал, забіўшыся пад брэзент, дрыгаўся і сцаў проста пад сабе. Натуральна, першым жа рэйсам ён быў адпраўлены назад у суправаджэньні двух вайскоўцаў і санітара ў апартаменты, якія нядаўна пакінуў, цьверда рашыўшы развадзіць трусоў і нутрыяў.

І пілот і штурман доўга і зьбіўліва тлумачылі пахмураму маёру аваіяцыі, што адбывалася і як, жвава жэстыкулявалі і нават паспрабавалі тут жа рэканструіраваць ходу нядаўняга паветранага спаборніцтва, але маёр задуменна ўтаропіўся ў адную кропку, туды, дзе дзюрыўся вінны струмень ды хістаў галавою ў тахт пілотавым словам распаляючы таго сваім песымістычным маўчаньнем. Выгляд маёр меў стомлены, як хірург пасьля апэрацыі. Прадаўшчыца выла-галасіла штосьці неяснае, відаць, аб сваім, жаночым і кожнаму паказвала накладныя, размахвала імі і прыціскала да грудзей...

**Праз тыдзень карэспандэнт паклаў на стол рэдактара матар'ял напісаны пасьля творчае камандыроўкі, загалоўлены досыць арыгінальна: "Здарэньне ў паветры". Рэдактар уважліва прачытаў тэкст, адклаў яго, запаліў цыгарэту "Космас" і папрасіў аўтара выйсьці. На наступны дзень ён ужо работаў у адьдзеле карэспандэнцыі і разьбіраў завалы лістоў і допісаў, дасланых у рэдакцыю. Ўспаміны гэтага чалавека, асобу якога мы не раскрываем па прычыне важнасьці пасады, якую ён цяпер займае паслужылі асноваю гэтага артыкула, ўзнаўляючага ўнікальнае здарэньне замоўчанае камуністымі. Беліцкае кола дасьледчыкаў, прадставіўшы сэнсацыйны матар'ял лічыць, што дадзены выпадак толькі адзін з шэрагу шматлікіх цмачыных сустрэчаў, пра якія, калі пашанцуе, можна дачуцца ў любой вёсачцы. Давайце й мы, аксамітныя Вы нашы, вандруючы па зямельцы ды шчырыя размовы меючы з тубыльцамі тых мясьцінаў, дзе ляжыць вандроўны шлях, будзьмо дазнавацца пра цмачынаю прысутнасьць, а як дазнаемся, перакажам усё на аксамітных старонках...**

(Тут, дарэчы, дужа даладу прыйшоўся б які шляхетны ўспамін, з тых, што так неабходны дзеля зьвязаньня гісторыі ды сучаснасьці, але рыючыся ў аксамітным архіве натрапіў на зусім іншае. Верш напісаны ў часы, калі беліцкае кола дасьледчыкаў толькі пачынала свае дасьледваньні, не ведаючы дакладна колькі ў цмока галоваў – дваццаць, альбо сорак, у часы калі граната ўспрыймалася намі такой жа мастацкай прыладай, як пэндзлік альбо мастыхін...)

**Андрусь Цмокавед**

Не спрачайся, хлопча,
З цмакамі аб каханьні...
(З народнага)

* * *

Учора бачыў цмока
Сядзеў што на галінцы
З басэтляю ў лапах
Ды шчэ сьпяваў нахабна:
"Кахаю я Алену!"
А я сядзеў пад дрэвам
Ды й слухаў гэту прыкрасьць.
Калі зусім абрыдла
Я выцягнуў з кішэні вялізную лімонку
І кінуў шпарка ў цмока.
Ад выбуху гранаты
Ён страціў шэсьць галоваў
Але астатніх дваццаць
Агнем пляваць пачалі
Спалілі нагавіцы
Я ледзь уратаваўся
І вырашыў, як раюць
Дасьведчаныя людзі
З цмакамі аб каханьні
Ніколі не спрачацца.

**У вёсках жывыя яшчэ бабулі, што прасьпяваюць песьні з Эрусалімскім сюжэтам:**

Паміж гор крутых ніжэй каменю
Ой люлі-люлі, ніжэй каменю
Там ляжыць Цела як папер бела...

**Гартаючы старонкі Эвангельля мы спатыкаем гэтыя сюжэты, а ў паселішчах сядзібы тых бабачак, што з веку ў век нясуць памяць пра Ўшэсьце Хрыстова, пра тых, хто ляжыць пад кожным спарахнелым крыжом на могліцах.**

**Аксамітны аўтар адолеў попрышча што адьдзяляе Менск ад Гомеля і прывёз нам роспавяд пра адну з іх.**



Бабкі з Нісімкавічаў на сьвята Ўшэсьця Хрыстова 1990 г. Фота А. Чыжова

Пан Скрыжывальскі, шляхціц з Магілёўскай

# LUX PERPETUA

Старая Наста неподвижно, чуть склонив голову набок, сидит у стола в старческой медитации, беззащитна, как ребенок. На столе затянутая марлей скринка молока и пожелтелое, расплывшееся сало. Руки Наста устало сложила на коленях. Глаза ее, цвета усохшего от солнца василька, широко распахнуты, зрачок от этого смотрит испуганно. В окно ребячливо запрыгнул столб предзакатного света, обнажив в кухонной полутьме невесомый хоровод пылинок. Наста совою смотрит сквозь пыль, не замечая ее. Она слепа вот уже тридцать лет.

Все, на что способно ее зрение — отличать ночь ото дня. Но и этого хватает человеку, чтобы жить.

Наста не ест хлеба даром. Быть иждивенкой не приходит ей в голову. Она ухаживает за скотиной и знает, что и где растет в огороде. Наощупь — если глаза ее совсем не видят, то руки видят замечательно.

Время не знает Насту, Наста не знает времени. В течении всего этого столетия ни одна власть не сумела сделать Насту счастливой. Как, впрочем, и сделать ее несчастной оказалось не под силу никакой власти. Кто только не мелькал перед ее глазами, когда те были еще зрячи: царский урядник, польские жовнеры, люди в буденовках, черные мундиры эсэсовцев. И сейчас, под невидящим взглядом одинокой селянки, никогда не имевшей ни своей семьи, ни своих детей, не покидавшей родного предела дальше соседней деревни и никому за всю жизнь не сделавшей ничего дурного, планета вертится как большое, но недозревшее яблоко...

Закат заливает морщины Насты розовым маслом. В доме терпко благоухает свежескошенным лугом и звенит тишиною. Тишина в вечерний час всеобъемлюща и безгранична, слышно, как пляшут в воздухе пылинки. В центре этой тишины, всем существом ушедшая в прошлые лица, находится Наста. Она чуть, уголками губ, улыбается — видно, чувствует тепло, подаренное ей озорным лучом. По улице, грустно и тяжело, цокает лошадь, скрипит надтреснуто телега — им не удастся разогнуть эту тишину, они только сделают ее плотней, хоть бери нож, нарезай кусками и клади в карман... Завтра наступит Святой День, Пасха.

И потянутся до бабы Насты старухи и тетки с окрестных деревень. Станут приносить нехитрые гостинцы: кто масла кусок, кто сало или сметану, кто пирог, а кто и бутылку водки придвинет к праздничному столу. Будут просить Насту: "Наста, помяни моих." Наста отвернется в угол, где висит до черноты прокопченая чадом крестьянского быта и годами Богоматерь с младенцем, станет благовейно теребить подол юбки и класть глубокие поклоны. Слепой глаз ее удивленно посмотрит сквозь икону и Наста примется даже не молиться, а петь. Тонким детским голосом, никак не подходящим к ее девяносто одному году, Наста споет Божьей Матери про "заўмарлыя душкі", "пра Татцяну", "пра Йвана", "Пра Канстантына з Несцяроўшчыны", чью могилу, наверное, уже не носит земля на лице своем. И в этом чистом сосредоточьи, светлой работе памяти, перед ее глазами, не теми, которые могут отличить только день от ночи, а теми, что внутри, что видят дальше и зорче обычных, пройдут перед Настой целых пятьсот человек. Их здесь помнит и знает и говорит с ними только одна Наста. Только для нее они живые, ибо если есть в ком память о человеке, тогда человек жив еще.

Кто-то будет тихонько приходить, кто-то выходить, какая-то тетка не то в скорби, не то в умилении заплачет про себя. Девочка лет пяти в мурзатой красной курточке будет нетерпеливо дергать мать за рукав и шопотом спрашивать когда же все пойдут есть кулич.

Помянувши всех и перекрестившись напоследок, Наста устало опустится на стул, чтобы еще раз, уже в себе, воскресить того, этого, всмотреться в их лица, вслушаться в их голоса. Под иконой будет догорать свечка. А люди разбредутся по окрестным погостам.

Когда умрет и Наста, с нею окончательно умрут и те пятьсот, а пока...

А пока, завтрашний день — первый настоящий весенний день. Веселый день, погожий, теплый. Березина будет скользить по краю лесной чащи, понесет свои воды к далекому морю, питая встречные поля, деревни, города окрест от груди своей. Захочется уйти за околицу, покинуть насиженные места, встать посреди простора, где горизонт теряется в солнечной золотистой дымке и крепко врасти головою в небеса, а ногами в землю. Захочется стать великаном. Человечищем.

И ближе к вечеру разнесется, смешается с тишиной деревни, повязнет в едва позелененных ивах у реки клекот первых вернувшихся домой аистов. Таких облезлых и уставших.

Deus conservatum omnea noster et lux perpetua luceat eis.
Amen...

**Гавораць мудрыя людзі, аж покуль правіцца Божая Літургія, будзе весьціся род чалавечы, дакуль зыходзіць Агонь Сьвяты на Пасху, датуль будзе гарэць сонейка над нашымі грэшнымі галовамі, непарушнаю астанецца повязь між былым і наступным покуль ткуцца палотны рушніковыя.**

# Вуліца Магілеўская-2

чарговая падборка магулінак (бо гамялецкіх хокку)

## Алесь Мартин

* * *

с утра шел такой дождь,
что даже разговор
угас..................



## Aid Salem

* * *

Уздымаюсь ў начы на дах
Таемна блішчыць маладзік
Аднаўляю ружанец.

* * *

Чорны кот ляжыць побач
За шыбамі зяленае лісьце
Мне вельмі прыемна.



## Людмила Шайденкова

* * *

Зорко следит,
Проходящая мимо старушка
За позабытой у лавки
Бутылочкой пива.

* * *

Глупые люди:
В варенье они добавляют
Сахар...
Отборный сакэ из него
получился б!

## Артур Гимадеев

* * *

Полная луна между цеховых труб...
Стрёкот сверчка,
Едва различимый в гуле компрессора...
И при том – тишина...
Сразу видно – я тут дома.

* * *

Солнца луч
Отраженный в снежинке –
Что сильнее согреет душу?



## Э.А.С.

* * *

Жадные языки пламени
Съедают поэзию
Строки становятся пеплом...

## Сергей Афонасьев

* * *

в кромешной тьме лишь
зыбкая синь газовой комфорки
метан горит
вот-вот случится Чудо

* * *

мне снилась пустыня
мегатонны песка
в каждой крупинке которого –
ВЕЧНОСТЬ
вот только Хайдеггера там не было

## Анна

* * *

Я знаю, как падают с крыш
Тени вечера в ночь и тишь
В холод осени, когда в небо уносятся
Души умерших летом птиц...



## Владимир Агафонов

* * *

это не наш год
хотя звезды
падают рядом
и убивают наповал

* * *

когда в сегодня
не остаётся ничего
ради чего стоило бы
жить
значит пришло завтра



## Скоропея

* * *

Смородиною красной
Ты угощал
Да наступила осень...

* * *

Опять меня
Щекочешь ты усами
Не спится?

Малюнкі В. Кацуры

# Драўляны калярыт Гомельшчыны

У традыцыйным драўляным дойлідстве ёсьць тое, што выгодна вылучае Гомельскую краіну з усяго Беларускага кантэксту. Багаты-магнаты драўляны дэкор упрыгожвае тутэйшыя сядзібы ня толькі ў мястэчках і буйных гарадах, але ў самых дробных і аддаленых вёсачках. За даўнім часам павялося тут аздабляць хаты няхітрай разьбою, і як сто год таму, так і цяпер яшчэ жыве гэтая традыцыя, але марнее сярод неўласьцівых ёй матар‘ялаў, тандэнтнай тэхналёгіі, прарабскага падыходу, няўмольны час зьніштажае старыя сядзібы і мястачковыя кварталы, зводзіць повязь чалавека із прыродаю, адвечным асяродкам існаваньня, нішчыць непаўторны ляндшафтны відарыс даўніх гарадоў.



Дом на вул. Партовай к. XIX — п. XX ст. Фота З. Лімантава

Болей як дзесяць год таму група неабыякавых людзей выступіла супраць разбурэньняў традыцыйнага гарадскога асяродку і разам з тым пачала збор узораў драўлянага дамавога дэкору, прыкладаў мястачковага дойлідства. Шмат мінула з таго часу, шмат зьнікла беззваротна, але задача нашая і пасёньня тая-ж самая, таму нядзіўна што маладзёвая краязнаўчая суполка "Талака" і творчая кампанія вольных мастакоў "Магілка", працягваюць пачэсную працу па зборы візуальнай інфармацыі. У нашым архіве цяпер болей за тысячу фотаздымкаў гомельскіх ліштваў, падзораў, брамаў, дзьвярэй... І гэта пры тым, што мы фактычна толькі закранулі ёмістую перапоўненую тэму. Сапраўды, Гомелем толькі распачынаецца, але паблізу разьмешчаныя цэнтры дамавое прывабнасьці: Ветка, Добруш, Дабрянка, Навазыбкаў, Злынка і безьліч вялікіх і малых паселішчаў.

У дамавым дэкоры нас прываблівае і самое рамяство і сакральныя знакі, якія твораць драўляны арнамент і эстэтыцызм з якім гэта зроблена. Зафіксаваць усё гэта, захаваць хоць бы на фотаздымках – вось першасная нашая задача. Ўвесьці ў навуковы ўжытак, а гэтаксама выкарыстоўваць у якасьці практычнага матар‘ялу па аздабленьні прыватных дамоў, то другая мэта. І трэйцім мроіцца фармаваньне адметнай архітэктурнай плыні заснаванай на выкарыстаньні традыцыйнай пластыкі і дэкорных элементаў у суладдзі з акаляючым асяродкам памножанай на сучасны функцыяналізм.

Дастойны занятак, што і казаць. Жадаючыя далучацца да дэкорнага збору, альбо тыя, хто проста моўчкі цікавяцца нечым падобным зьвяртайцеся ў рэдакцыю.

**А. Скідан**

---

**А пан редактор говорит: "Непременно напишите аннотацию к панне Лизе! Непременно!" И потряс кулаком. А все почему – не по зубам ему написать аннотацию к Лизе. Лиза проста и непроста, хоть и юна, ее стихи это танец, а читать ее так это вполовину того как слушать. Да и вообще! У нас появился новый корреспондент, а это уже само по себе аннотация!**

## Лиза

* * *

Ты все поймешь, ты все простишь
И, покачав тихонько головою,
О чем-то очень грустно загрустишь,
А я наверно, от тоски завою.

А я чуть нервно заиграю свою жизнь
С заигранно-недоработанным пассажем,
А в полночь
головою
вниз...

* * *

Вновь собралось дождить
Сердце глупыми стихами...
А мне б сегодня заблудить,
И захлебнувшись вечерами,
Следить по листьям босиком
Целуя ветви, руки, главы,
А мне б добраться прямиком
До ПоТуЛетней переправы!

А мне б смеяться небесами,
А мне б летать под облаками,
Мне б заплутаться по лесам,
Мечты срывать с высот руками!

А мне б еще чего-нибудь
Так утворить! Что б страшно стало!
А мне б! А мне бы... где-нибудь...
Передохнуть, я так устала...

**З'яўленьне цмачынага абрысу на небакраі для вольнага мастака, а тым болей катакомбнага маразматыка-літаратара ня ёсьць чымсьці сенсацыйным і тое, што мяшчане ўспрымаюць як галюцынацыю, ў людзей творчых выклікае прыліў бадзёрасьці, аптымізму і адрэналіну ў крыві. Асабліва хвалю эмоцыяў выклікае палёт цмака, які ёсьць увасабленьнем грацыёзнасьці і дужасьці, штосьці накшталат танкавага вальсу. Значыць цмок зноў на вышыні? Безумоўна, нябесскі сюжэт нездарма пераважае ў-ва ўсім цмачыным матар'яле, за яго часьцей хапаецца творчая фантазія, якая, як ведама гэтаксама мае здольнасьць да палёту, хапаецца, як тапелец за саломіну перабраўшы розныя прыбыльныя варыяцыі і спыняецца чамусьці на самай тупіковай. Чалавек, што быў захапіўся цмаковым рамантызмам назаўсёды застаецца верным азначаным арыенцірам: зьбіраецца ў вандроўкі нягледзячы на метэаралягічныя пакази́кі, пазбаўляецца прагматызму і матар'яльнае залежнасьці, стараецца жыць суладна з мацеркай-прыродай, ахвотна сьпявае песьні, ды й сам спрабуе складаць...**

**Нездарма чарговы наш аўтар узяўся за пяро, альбо ўсё ж раней ўзяўся за гітару? Высьвятленьнем гэтага аксамітнага пытаньня заняўся наш у'едлівы карэспандэнт, які пасьля работы мае звычаем заходзіць у госьці і бавіць час доўгімі зімовымі вечарамі карыстаючся гасьціннасьцю гаспадароў.**

# Чалавек які пяе пра цмокаў

**К.:** Алесь, ўсе ж-ткі, спачатку пра цмокаў. Зфармулюю пытаньне гэтак: твае сутыкненьні з цмокамі.

**Алесь Марцін:** Лічу, што нічога не здарыцца, калі скажу, што цмокі ў жыцьці чалавека з'яўляюцца нездарма. Да й момант трэба падыходзячы. А й што гаварыць, час выпадкова робіць петлі, нагадваючы славутае кальцо Мёбіуса, і настрой... Там і цмок явіць сваю грывастую хвігуру. Але ж гэтага мала. Не пойдзеш улетку ў вандроўку – як табе ўбачыць цмока, які ўлез на хваіну на процілеглым высокім беразе Дняпра, ўвесну ня пойдзеш на чоўне па Іпуці, што пад гэты час нагадвае Амазонку са стужак Кусто, як жа ж ты, родненькі, ўбачыш, цмачыху з цмачанятамі сярод непралазнага хмызьняка? Ўзімку ці шукаў ты сьляды крылаў на палях пад... напрыклад, Грабаўкай?

**К.:** А песьня, як нарадзілась песьня?

**А.:** Я ж кажу, час робіць мертвую пятлю і мы раптоўна апыняемся ў мясьцінах, якія прагледзілі, ў часах, якія марна трацілі, не спыняючы свае думкі на тым, што, як пяе славуты Б.Г. "Гэта лепшыя часы нашага жыцьця". Так і я, седзячы ў школе (за настаўніцкім сталом, даражэнькі за настаўніцкім), гледзячы то на тое, як мой 6 "Б" піша кантрольную па Эпосе Славутых Адкрыцьцяў, то за вакно, дзе восень, дзе сум, дзе мая Дасэнаўская настальгія, дзе нібы толькі было лета, калі я студэнтам першага курса вандраваў з вамі, мае даражэнькія магілкаўцы па "тым беразе" Сожа. Так і нарадзілася песьня. Згартай ты даражэенькі свае карэспандэнтскія штучкі, і дай-ка мне гітару...

## Ляцяць Цмакі

Словы **Алеся-Марціна**
Мэлёдыя народная

Slow Blues

```
E/C#              E  E/C#  E
```
**Не ўзьняць рукі**
```
E/C#              E  E/C#  E
```
**Не ўзьняць рукі**
```
E/C#      A
```
**На рыла пляшка**
```
A
```
**І надта цяжка**
```
A         E      E/C#  E
```
**Ляцяць цмакі**
```
E/C#            A  H
```
**Ляцяць цмакі**
```
H               E  E/C#  E
```
**Хутчэй малюй**

**Сядзяць браткі**
**Мае браткі**
**Паўздоўж ракі**
**Дзе хмызьнякі**
**Ляцяць цмакі** (2 разы)
**Хутчэй малюй**

**Рыпяць цьвікі** (2 разы)
**І крошка сын**
**Папаша, блин,**
**Ляцяць цмакі** (2 разы)
**Хутчэй малюй**

**Мне не з рукі** (2 разы)
**Матнуць прашчы**
**Глядзі ў вачы**
**Ляцяць цмакі** (2 разы)
**Хутчэй малюй**

Coda

# АБ'ЯВЫ

**20 лістапада бягучага року** (Run, baby, run... – памятаеш, дружа? – **Рэд.**) адбыуся у нашым мястэчку планавы трэйці маладзёвы фэст аўтарскіх твораў. Гледзячы на тое, што арганізатарамі фэсту былі адміністрацыя Цэнтральнага раёну Гомеля і РПП ЖКХ (што гэта такое засталося таямніцаю нават і для кола беліцкіх дасьледчыкаў – **Рэд.**), узьнікае пытаньне – што там рабілі вольныя мастакі і якое дачыненьне да гэтага мае нашае аксамітнае выданьне? А здарылася вось што: апынуўшыся ў пэўны час за кулісамі (а хто і на сцэне) вольные мастакі ціхенька чыталі вершы, вершыкі, вяршыскі, кавалкі прозы, пілі таннае віно, набытае маладымі песьнярамі і выгляд мелі надзіва цывільны. Адмысловым з таго вынікам было ўрачыстае ўзнагароджаньне дзьвух паэтак дыплёмамі Аксамітнага Жаха: **Веры Вераб'ёвай,** вершы якой кранулі сэрца нашага рэдактара сваёй аксамітнай чысьцінёй і **Тацьцяны Жэленковай,** пра якую яшчэ шмат што будзе сказана ў наступным нумары (калі ён будзе – **Рэд.**). Скажу толькі тое, што ёй акрамя дыплёма была прэзентаваная Бомба Иоанна Помидорова – апошняя з той аксамітнай сэрыі, якой вольныя мастакі падрывалі савецкі канфармізм у пачатку дзевяностых.

**Рэдакцыя газэткі**, а з ёю і ўсе вольнае мастацтва віньшуюць кіраўнікоў і супрацоўнікаў, навуковых работнікаў і гаспадарчы пэрсанал Гомельскага Абласнога Краязнаўчага музэю з 80-мі ўгодкамі з дня заснаваньня, а гэтаксама з вяртаньнем цэнтральнага корпуса палаца Румянцавых у музэйную аканомію. Цешымся з гэтае навіны і марым аб Палацы – зборы духоўных і творчых здабыткаў нашага краю, Палацы – высакародным мейсцы для кожнага з нас. Калі што, зьвяртайцеся по дапамогу!

**Віньшуем Алу і Юру Лупіненкаў** з нараджэньнем Андрэйкі. Дай яму Божа здаровейка, а бацькам цярплівасьці і ладу.

Рэдактар: Т.Буль-Бутэліч; Макетоўшчык: Алеська Марцін; Мастакі: А.Скідан, В.Кацура; © Орыгінальна idea: Творчая кампанія вольных мастакоў «Магілка». Рэдакцыя надта ж удзячна маладзёвай краязнаўчай суполцы «Талака» за супрацоўніцтва і падтрымку. Папера афсэтная. Друк трафарэтны. Наклад 210 ас. Падпісны тэлефон 48-89-90 (Алесь), і гэтаксама 48-59-14 (Андрусь)